


Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ОД ВЫДАНЬНЯ

№ 14 (115) | 1 кастрычніка 1931 г. | № 14 (115)



## ЗЬМЕСТ.



---



## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

**68. Пра парадак аплаты сутачных і выдаткаў, зьвязаных з пераездам рабочых і служачых, пасылаемых на торпараспрацоўкі.**

На падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 14/І 1927 г. „Пра аплату службовых камандыровак", дадаткова да пастановы НК Працы БССР за 1 верасьня 1931 г, № 37 „Пра аплату розьніцы ў зарплаце рабочым і служачым, пасылаемым на торпараспрацоўкі (Бюл. СНК 1931 г. № 13, паст. 66) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Рабочым і служачым, якія пасылаюцца гаспадарчымі, прафсаюзнымі і іншымі арганізацыямі на торпараспрацоўкі па ліквідацыі прарыву, выплачваюцца адміністрацыяй прадпрыемстваў і ўстаноў, у якіх камандыраваныя рабочыя і служачыя знаходзяцца на сталай працы:

а) фактычныя выдаткі па праезду па чыгунцы, воднаму транспарту і іншымі сродкамі перасоўваньня;

б) сутачныя ў разьмеры $1/_{60}$ фактычнага заработку па месцы сталай працы, але ня ніжэй 1 р. 12 к. у дзень за ўвесь час знаходжаньня ў камандыроўцы на торпараспрацоўках, але ня звыш, як на працягу 2-х месяцаў.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Ст. Інспэктар НКП БССР **Марозаў.**

7 верасьня 1931 г.
№ 39.

**69. Пра аплату працы мэдпрацаўнікоў пунктаў аховы здароўя прадпрыемстваў.**

На падставе пастановы СНК БССР за 31 ліпеня 1931 г. Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць з 1/IX-1931 г. наступныя стаўкі зарплаты:

а) для мэдпрацаўнікоў пунктаў аховы здароўя прадпрыемстваў, пералічаных у арт. 1 пастановы СНК БССР, і прадпрыемстваў з колькасьцю рабочых звыш 1500 чалавек:

| | | |
|---|---|---|
| Загадчыкі-урачы | 300 | руб. у месяц |
| Урачы | 175 | „ „ |
| Зубныя ўрачы | 125 | „ „ |
| Сярэдні мэдпэрсанал | 80 | „ „ |

б) для мэдпрацаўнікоў астатніх пунктаў аховы здароўя прадпрыемстваў, дзе налічваецца 500 і больш рабочых, не пералічаных у п. 1 пастановы СНК БССР і ў абзацы „б" п. 1 гэтае пастановы, устанавіць:

| | | |
|---|---|---|
| Загадчыкі-урачы | 250 | руб. у м-ц |
| Урачы | 150 | „ „ |
| Зубныя ўрачы | 125 | „ „ |
| Сярэдні мэдпэрсанал (фэльдчары мэд. сёстры) | 80 | „ „ |

2. Апроч месячных ставак заработнае платы для работнікаў, пералічаных у арт. 1 гэтае пастановы, устанавіць сыстэму прэм'ваньня за якасныя і колькасныя паказчыкі.

Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя сумесна з Галоўсацстрахам і ЦП Саюзу Мэдсанпрацы ў 5-цідзённы тэрмін распрацаваць палажэньне пра сыстэму прэм'яваньня ў адпаведнасьці з абзацам 1 гэтага пункту.

3. Фонд прэм'яваньня складаецца:

а) з налічэньняў да фонду заработнае платы па пункту аховы здароўя па бюджэту НК Аховы Здароўя ў разьмеры 10 проц.;

б) з эканоміі па ліміту Галоўсацстраху па часовай непрацаздольнасьці па данаму прадпрыемству, у разьмеры 30 працантаў фонду зарплаты.

4. Прэмія мэдпрацаўнікам пунктаў аховы здароўя ўстанаўлівецца пакватральна камісіяй з наступных прадстаўнікоў: прафарганізацыі, страхкасы і адміністрацыі прадпрыемства.

5. Пры ўвядзеньні паказанай сыстэмы аплаты загадчыкам-урачам забараняецца займаць пасады па сумяшчэньню, а астатняму мэдпэрсаналу сумяшчэньне дазваляецца на тым-жа пункце аховы здароўя і ня больш яе яшчэ паўпасады.

Народны Камісар Працы БССР **Баскін.**

За Загадчыка Сэктару Арганізцыі
і Аздараўленьня ўмоў працы БССР **Берзін.**

9 верасьня 1931 г.
№ 40.

**70. Пра ўвядзеньне прамой зьдзельшчыны і пачасова-прэміяльнай аплаты працы работнікаў кіраўнічага апарату.**

Разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва народнае гаспадаркі патрабуе ад усяго кіраўнічага апарату, у інтарэсах шпаркіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, яшчэ больш чоткае і бесьперабойнае работы.

За апошнія гады ў рабоце кіраўнічага апарату маюцца значныя дасягненьні, асабліва пасьля чысткі апарату ад чужых і варожых элемэнтаў, папаўненьня яго рабочымі вылучэнцамі з вытворчасьці, шэфства рабочых над апаратам.

Разам з гэтым у рабоце апарату маецца шэраг недахопаў, як: несвоечасовае складаньне вытворчых плянаў і непрадстаўленьне ва ўстаноўленыя тэрміны балянсаў, справаздач, выпадкі несвоечасовага і нядобраякаснага складаньня разьлікаў па выплаце зарплаты рабочым, перавышэньне выдаткаў супроць асыгнаваных каштарысаў, слабая вытворчасьць працы работнікаў апарату, цякучасьць яго асабовага складу.

Існуючая сыстэма арганізацыі і аплаты працы работнікаў кіраўнічага апарату (ураўніláўка, абязьлічка) фактычна не забясьпечвае пры новых умовах дастатковага стымулу для палепшаньня работы апарату.

У мэтах стымуляваньня інтэнсыўнасьці і прадукцыйнасьці працы работнікаў апарату, барацьбы з цякучасьцю, падвышэньня кваліфікацыі для лепшага абслугоўваньня сацыялістычнага будаўніцтва, разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, рашучага павароту яго тварам да вытворчасьці, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Устанавіць сыстэму аплаты служачых па прынцыпах матарыяльнай зацікаўленасьці іх у барацьбе за высокія якасныя і колькасныя паказчыкі работ па наступных прадпрыемствах і ўстановах г. Менску: завод „імя Варашылава“, зав. „Бальшавік“, ф-ка „Кастрычнік“, Наркампрацы, Наркамфін, Гарсавет, Лесбел, МЦРК, Белсельтрэст, Менская Кантора Дзяржбанку.

Пры правядзеньні гэтае сыстэмы павінны быць паложаны ў аснову аплаты ўстаноўленыя Наркампрацы БССР уніфікаваныя стаўкі зарплаты.

II. Сыстэмы заахвочвальнай аплаты па розных мясцох работы могуць быць розныя, у залежнасьці ад. характару работы, складу апарату, аб'ёму яго штатаў, маштабу работ і інш. момантаў, улічваючы , што нельга ні ў якім разе абмяжоўвацца толькі ўстанаўленьнем ставак месячнай зарплаты ва ўсіх тых выпадках, калі .выконваемая ўсім апаратам альбо паасобнымі яго часткамі ці нават паасобнымі працаўнікамі работа можа быць нармавана і падлічана.

Ва ўсіх гэтых выпадках павінна быць уведзена сыстэма прамой зьдзельшчыны і пачасова-прэміяльнай аплаты працы за перавыкананьне звышустаноўленых для кожнай часткі апарату ці паасобных работнікаў норм выпрацоўкі.

III. За норму выпрацоўкі для работнікаў апарату трэба прыняць тыя тэрміны работ, колькасьць працы, патрэбны для выкананьня той ці іншы час, які ўстанаўляецца адміністрацыяй прадпрыемства ці ўстановы і зацьвярджаецца РКК.

IV. За выкананьне норм ва ўстаноўлены тэрмін работнік атрымоўвае толькі стаўку зарплаты. Заахвочваньне ўстанаўляецца за датэрміновае выкананьне, за павялічэньне колькасьці работы супроць устаноўленай, за зьмяншэньне і эканомію ўстаноўленага часу і г. д.

*Увага.* За невыкананьне работнікам апарату ўстаноўленых норм выпрацоўкі, колькасных і якасных паказчыкаў, паказаных у п. III гэтае пастановы, устанаўляецца матарыяльная адказнасьць, па якой адміністрацыя мае права, па рашэньню РКК, рабіць вылікі ў разьмерах ня звыш прадугледжаных у арт. арт. 57 і 72 Кодэксу аб Працы.

V. Апроч поўнага пераводу ўсіх работ, якія падаюцца нармаваньню і падліку, на зьдзельную сыстэму аплаты, паказчыкамі, вакол якіх павінна будавацца сыстэма прамой зьдзельшчыны і пачасова-прэміяльнай аплаты, зьяўляюцца прыкладна наступныя:

а) цатэрмінова-якаснае складаньне балянсаў;

б) датэрміновае выкананьне плянавых і аперацыйных заданьняў па складаньню пляну кантрольных лічбаў, распрацоўцы паасобных работ, складаньню калькуляцый і г. д.;

в) за дабраякаснаё складаньне разьліковых ведамасьцей на зарплату рабочых і поўнае зьнішчэньне пралікаў і памылак у іх;

г) за датэрміновае выкананьне ўсялякага роду сацыяльна-эканамічных заданьняў і правядзеньне масавых кампаній па розных пытаньнях, як: па хлебу, ільну, торпу, лесу, дровах і інш. нарыхтоўках, па мабілізацыі ўнутраных сродкаў і рэсурсаў, па павялічэньні таваразвароту і г. д.;

д) за эканомію сродкаў, сваечасовае папярэджваньне, сыгналізацыю і рэагаваньне з боку паасобных частак і работнікаў апарату на недахопы і прарывы, якія могуць быць зьнішчаны, дзякуючы сваечасоваму прадстаўленьню справаздачнасьці;

е) за дабраякаснае складаньне і датэрміновае адасланьне ў вышэйшыя інстанцыі рознага роду статыстычных форм, вестак, за поўнае зьнішчэньне выдаткаў на тэлеграфныя міжгародныя тэлефонныя і паштовыя запытаньні і напамінкі па дасылцы матарыялаў ці патрабуючыхся тлумачэньняў і дадаткаў па недабраякасных ці ня ў тэрмін дасланых матарыялах, лічбах і інш. ведах і г. д.;

ж) за поўнае зьнішчэньне выдаткаў па звыштэрміновых работах, ушчыльненьне рабочага часу шляхам правільнай арганізацыі працы, рацыянальнага скарыстаньня маючыхся ў апараце работнікаў, рэальнага выслабаненьня лішкаў і эканомію працоўных рэсурсаў інтэлектуальнае рабсілы, за ўвядзеньне рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, якія скарачаюць патрэбны час для выкананьня работ і колькасьць работнікаў, паляпшаючы пры гэтым якасьць работы.

Па ўсіх пералічаных ў гэтым пункце ці мажлівых быць устаноўленымі іншых паказальніках прэм'яваньня ўстанаўляецца ня толькі за перавыкананьне ці за датэрміновае правядзеньне работ альбо заданьня, але кожная праробленая работа павінна разглядацца і расцэньвацца з пункту погляду якасьці і карысьці, якія атрымліваюцца ў выніку правядзеньня яе ў жыцьцё.

VI. Для практычнага ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, пералічаных у гэтай пастанове, кіраўнікі ўстаноў, прадпрыемстваў і арганізацый сумесна з прафарганізацыямі павінны распрацаваць і скласьці адпаведныя палажэньні, у якіх падрабязна паказаць аб'ёмы і разьмеры работ кожнае часткі апарату (бухгальтэрыі, статыстыкі, пляніраваньня, забясьпечаньня, праектаваньня, разьліковага аддзелу, інфармацыі і г. д.), і паасобных работнікаў, працу якіх магчыма ўлічваць і нармаваць, тэрміны ці колькасьць неабходнага часу для выкананьня і датэрміновага выкананьня (у процантах да асноўнае стаўкі зарплаты), таксама нормы (у процантах па скальзячай шкале) вылікаў пры адхіленьнях ад устаноўленых норм і паказчыкаў.

У палажэньні павінен быць таксама паказан парадак пастаноўкі вучоту і кантролю выкананьня, пэрсанальныя асобы, якім даручаецца вядзеньне вучоту па кожнай частцы апарату, ці па асобных работніках, працуючых па сыстэмепрамой зьдзельшчыны і пачасовай прэміяльнай аплаты, парадак індывідуальнага разьмеркаваньня стварыўшайся сумы прэм'яваньня (прапарцыянальна да атрымліваемай зарплаты і інш. спосаб), парадак прэм'яваньня кіраўнікоў тых ці іншых

частак апарату (галоўбухаў, групаводаў і г. д.), мэтады і спосабы дачы ацэнкі па выніках работы, а таксама падлік эканомі за прапрацаваны пэрыяд у выніку пераходу на паказальную сыстэму аплаты.

VII. Правядзеньне сыстэмы прамой зьдзельшчыны і пачасова-прэміяльнай аплаты павінна праводзіцца ў межах, зацьверджаных для кожнага прадпрыемства, установы фонду зарплаты без дадатковых асыгнаваньняў. Пры гэтым для правядзеньня гэтае сыстэмы павінны быць створаны фонды за лік эканоміі і па зарплаце і па адлічэньнях на сацыяльнае страхаваньне, ад скарачэньня штату і рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў.

Напрыклад, у бухгальтэрыі працуе 10 асоб, месячны фонд зарплаты складае 1500 руб., адлічэньні на сацстрах—150 р. Пры скарачэньні 2-х ці 3-х адзінак эканомія, ствараючаяся па зарплаце і ад сум сацстраху, перадаецца ў фонд прэм'яваньня ўсіх застаўшыхся ў бухгальтэрыі 7-8 чал. Другі прыклад: па штату для тэй ці інш. часткі апарату зацьверджана 10 чал., фактычна працуе 7-8 чал. Эканомія ад недаўкамплектаваньня апарату—фонд прэм'яваньня.

У фонд прэм'яваньня могуць быць таксама пераведзены часткі іншых сродкаў, атрымоўваемых у выніку эканоміі ад правільнай арганізацыі працы і пашыранага ўвядзеньня рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў.

VIII. Разьмеры адлічэньняў ў фонд прэм'яваньня па крыніцах, пералічаных у п. VII, павінны падзяляцца: 80 проц. сродкаў паступаюць у фонд прэм'яваньня і 20 проц.—застаюцца ў распараджэньні прадпрыемства і ўстановы, за лік якіх ствараюцца інш. фонды сацыялізаваных відаў заработнае платы для гэтае групы работнікаў у выглядзе сацыяльна-культурных і бытавых мерапрыемстваў.

IX. За лепш распрацаваны праект палажэньня па ўжываньню і правядзеньню ў жыцьцё гэтае пастановы, які будзе прадстаўлены групамі або асобнымі работнікамі прадпрыемстваў і установаў як пералічаных, так і не пералічаных у гэтай пастанове, пры Наркампрацы, НК РСІ і ЦСПСБ ствараецца фонд прэм'яваньня з наступных прэмій: 2 па 600 р., 3—па 400 р. і 5—па 250 р.

X. Апрача прэмій, паказаных у п. IX, адміністрацыя прадпрыемстваў і установаў абавязана ўстанавіць у сваіх апаратах прэміі для працаўнікаў за лепш прапрацаваны і прыняты праект палажэньня па ўжываньню і правядзеньню ў жыцьцё гэтае пастановы.

Разьмер прэм'яваньня можа быць ніжэй паўмесячнага акладу зарплаты працаўніка, праект якога будзе адміністрацыяй прыняты.

XI. Уся работа па пераходу на сыстэму зьдельшчыны і пачасова-прэміяльнай аплаты павінна быць скончана не пазьней 1/XI-1931 г.

XII. Адзначаючы масавае ўжываньне работ у парадку сумяшчэньня, асабліва канторска-бухгальтарскага і статыстычнага пэрсаналу, што вядзе да зьніжэньня прадукцыйнасьці працы работнікаў апарату пры масавым прымяненьні звышмерных работ, Наркампрацы БССР катэгарычна забараняе ўсялякія сумяшчэньні пасад ва ўсіх установах і прадпрыемствах.

У выключных выпадках сумяшчэньне асоба-кваліфікаваных работнікаў можа праводзіцца паводле пастановы НКП БССР за I/VI-1927 г. пры адсутнасьці перашкод па асноўнай рабоце работніка, пры згодзе на тое кіраўніка ўстановы, дзе работнік працуе, дазволе органаў працы.

Народны Камісар Працы БССР **Баскін.**

Заг. Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня Умоў
Працы НКП БССР **Берзін.**

12 верасьня 1931 г.
№ 41.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

### 71. Пра зацьверджаньне Статуту Беларускага Дзяржаўнага Мэліарацыйна-Будаўнічага Трэсту „Белмэліатрэст“.

Народы Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць далучаны да гэтае пастановы статут Дзяржаўнага Мэліарацыйна-Будаўнічага Трэсту рэспубліканскага значэньня „Белмэліатрэст“.

2. Даручыць Дырэктару Трэсту зарэгістраваць статут ў адпаведнасьці з існуючым заканадаўствам.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**

1 верасьня 1931 г.

**Дадатак.**

Зацьверджана Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР т. К. Масюковым 1 верасьня 1931 г.

### Статут Беларускага Дзяржаўнага Мэліарацыйна-Будаўнічага Трэсту „Белмэліатрэст“.

#### Агульныя палажэньні.

1. У мэтах правядзеньня гідратэхнічных будаўнічых работ па абсушцы і асваеньню забалочаных зямель для сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, а таксама для задавальненьня патрэб у гэтых работах з боку іншых устаноў і арганізацый ствараецца Дзяржаўны трэст рэспубліканскага значэньня над назвай—„Беларускі дзяржаўны Мэліарацыйна-Будаўнічы трэст „Белмэліатрэст“, які знаходзіцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і дзейнічае на падставе гэтага статуту.

2. У задачы Белмэліатрэсту ўваходзіць:

а) рэгуляваньне рэк і вадапрыёмнікаў для асваеньня забалочаных плошчаў пад сельска-гаспадарчае скарыстаньне для торпараспрацовак, лесасплаву, рыбных гаспадарак і інш. гаспадарчых мэт;

б) пабудова новых і рамонт старых магістральных каналаў;

в) пабудова дробнай адчыненай абсушальнай сеці і дрэнажу розных сыстэм;

г) розныя гідратэхнічныя пабудовы на рэгуліруемых рэчках і каналах абсушальнай сеці (замацаваньне пакатаў, шлюзы, масты, трубы і інш.);

д) пабудова шляхоў на асваяемых балотных масавых;

е) пабудова плацін, дамб, вадаспускаў, прудоў для рыбных гаспадарак, скарыстаньне воднай энэргіі і інш.;

ж) будаўніцтва розных дапаможных памяшканьняў, неабходных пры правядзеньні гідратэхнічных работ (баракі, склады, канторы і інш.);

з) мэханізацыя гідратэхнічных работ, вывучэньне навейшых мэханізмаў і дапасаваньне апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі ва ўмовах БССР у галіне гідратэхнікі;

і) мерапрыемствы па арганізацыі сацыялістычных форм і мэтадаў працы, пераход на зьдзельшчыну і зьнішчэньне абязьлічкі, разгортваньне вынаходніцтва, рацыяналізацыя вытворчасьці і забясьпечаньне рабсілай;

к) падрыхтоўка як масавых кадраў, так і спэцыялістых,

3. У склад Белмэліятрэста ўваходзяць і яму перадаюцца:

а) будаўнічыя мэліарацыйныя канторы на мясцох і бюро правядзеньня работ;

б) навучальныя ўстановы;

в) маемасьць установ і арганізацый, пералічаных у п. п. „а" і „б" гэтага артыкулу (машыны, інструмэнты, будынкі, абсталяваньне і інш.)

4. Белмэліятрэст складае самастойную гаспадарчую адзінку і дзейнічае на падставе гаспадарчага разрахунку ў адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі НК Земляробства БССР.

Ад дню рэгістрацыі Трэст мае правы юрыдычнай асобы.

5. Па сваіх абавязацельствах Трэст адказвае толькі той сваёй маемасьцю, якая паводле чынных законаў можа спаганяцца; дзяржава за даўгі Трэсту не адказвае, а таксама на маемасьць Трэсту ня можа накладацца якое-небудзь спагнаньне за дзяржаўныя даўгі і абавязацельствы.

6. Трэст выконвае свае работы па дагаворах з установамі і арганізацыямі, якія маюць патрэбу ў правядзеньні мэліарацыйных работ па складзеных і належным чынам афармленых праектах.

Нормы расцэнак за правадзімыя работы ўстанаўляюцца НК Земляробства БССР.

7. Белмэліятрэст абкладаецца дзяржаўнымі і мясцовымі падаткамі і зборамі на падставе дзейнічаючых законаў.

8. Белмэліятрэст можа ўтвараць на ўсёй тэрыторыі СССР усе апарацыі, якія неабходны для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у арт. арт. 1 і 2 гэтага статуту, а таксама адчыняць у БССР неабходныя для будаўніцтва канторы і правядзеньне работ.

9. Бясплатнае адчужэньне маемасьці Трэсту дапушчаецца толькі на падставе дзейнічаючых законаў.

10. Вытворчы плян Белмэліятрэсту прадстаўляе сумарны плян, складаемы з плянаў работ, перадаваемых для выкананьня Белмэліятрэсту.

11. Ва ўсіх выпадках, не прадугледжаных гэтым статутам, Трэст дзейнічае паводле палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

12. Белмэліятрэст мае пячатку са сваёю назваю.

**Статутны капітал.**

13. Статутны капітал Белмэліятрэсту вызначаецца арыентовачна ў разьмеры 1 млн. руб. і складаецца з кошту маемасьці, перадаваемай Трэсту ў парадку арт. 3 гэтага статуту.

**Кіраўніцтва Трэсту.**

14. Для кіраваньня Трэстам НК Земляробства БССР назначае Дырэктара і яго намесьніка.

15. Кіраўніцтва Трэсту знаходзіцца ў г. Менску.

16. Дырэктар Трэсту, паводле гэтага статуту і чынных законаў, пад агульным наглядам НК Земляробства БССР, вядзе самастойна ўсю апэрацыйную і адміністрацыйную работу Трэсту, кіруе справамі і маемасьцю, што знаходзіцца ў яго распараджэньні, заключае ўсе дагаворы і робіць апэрацыі, якія ўваходзяць у кола дзейнасьці Трэсту.

17. Дырэктар і яго намесьнік павінны ўжываць усе захады для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у статуце, і нясуць адказнасьць дысцыплінарную, крымінальную і грамадзянскую за цэласьць даручанай маемасьці і за правільнае і гаспадарчае вядзеньне спраў.

18. У кампэтэнцыю дырэктара, у паасобку, уваходзіць:

а) арганізацыя вытворчасьці і кіраваньне дзейнасьцю будаўнічых кантор і іншых частак, уваходзячых у склад Трэсту;

б) распрацоўка праектаў палажэньняў аб уваходзячых у склад Трэсту паасобных частак і прадстаўленьне НКЗ БССР на зацьверджаньне;

в) складаньне і прадстаўленьне НКЗ БССР на зацьверджаньне вытворча-фінансавага пляну, гадавой справаздачы і балянсу;

г) снабжэньне сваіх мясцовых органаў сродкамі вытворчасьці, а таксама грашовымі сродкамі і крэдытамі;

д) паданьне ў НКЗ БССР важных зьмен зацьверджаных плянаў;

е) складаньне дэталёвых плянаў па работах, інструкцый, тыповых канструкцый;

ж) складаньне і прадстаўленьне ў належныя інстанцыі плянаў будаўніцтва новых прадпрыемстваў, зьвязаных з правядзеньнем гідратэхнічных работ;

з) арганізацыя касы і вядзеньне справаздачнасьці, паводле ўстаноўленай сыстэмы;

і) інструктаваньне, інспэктаваньне і рэвізія ўсіх уваходзячых у склад Трэсту частак;

к) прыём і звальненьне рабочых і служачых цэнтральнага апарату, назначэньне і звальненьне загадчыкаў кантор, бюро правядзеньня работ і інш. паасобных частак, заключэньне каляктыўных дагавароў і паасобных працоўных згод, прадстаўленьне НКЗ БССР аб прызначэньні і звальненьні Галоўнага бухгальтара Трэсту;

л) распрацоўка штатаў Трэсту і падача на зацьверджаньне НКЗ БССР;

м) наём, здача ў арэнду і набываньне будынкаў, а таксама набываньне права забудоўкі;

Дамы, пабудаваныя за кошт фонду палепшаньня быту рабочых і служачых, здаюцца ў арэнду з дазволу НКЗ БССР;

н) арганізацыя прадпрыемстваў, неабходных для выкананьня пастаўленых перад Трэстам задач;

о) узяцьце і здача ў арэнду абсталяваньня і дапаможных прадпрыемстваў на тэрмін да 6 год, а звыш гэтага тэрміну—з дазволу НКЗ БССР; узяцьце і здача ў арэнду вытворчых прадпрыемстваў дапушчаецца толькі з дазволу НКЗ БССР;

п) страхаваньне маемасьці Трэсту;

р) выдача і прыняцьце для аплаты грашовых абавязацельстваў, вядзеньне крэдытных апярацый;

с) заключэньне ўсякіх патрэбных для ажыцьцяўленьня мэт Трэсту дагавароў, згод, актаў і інш., выдача даверанасьцяй;

т) права іску і адказу на судзе і прадстаўніцтва ў асобе Дырэктара або яго намесьніка, на падставе толькі гэтага статуту, бяз выдачы спэцыяльнай даверанасьці, або праз давераных асоб, упаўнаважаных спэцыяльнымі даверанасьцямі, ва ўсіх адміністрацыйных установах і ў службовых асоб;

у) прэміраваньне за рацыяналізатарскія прапановы і рабочае вынаходніцтва;

ф) мерапрыемствы па падрыхтоўцы кадраў і забясьпечаньні работ неабходнай рабсілай.

19. Парадак падпісваньня выходзячых з Трэсту папер устанаўляецца Дырэктарам; усякія дагаворы, згоды, абавязацельствы, даверанасьці падпісваюцца Дырэктарам або яго намесьнікам.

Дырэктар Трэсту мае права ўпаўнаважыць даверанасьцю кожнага супрацоўніка Трэсту на падпісаньне тых або іншых дакумэнтаў.

Дакумэнты грашовага характару сьцьвярджаюцца Галоўным бухальтарам.

Гадавыя балянсы і справаздачы падпісваюцца Дырэктарам або яго намесьнікам і Галоўным Бухгалтарам Трэсту.

**Парадак кіраваньня ўваходзячымі ў склад Трэсту паасобнымі часткамі.**

20. Для непасрэднага кіраваньня работамі, якія адносяцца да ведама Трэсту, на мясцох арганізуюцца Мэліарацыйна-будаўнічыя канторы, бюро правядзеньня работ, а таксама неабходныя дапаможныя прадпрыемствы.

### Капіталы Белмэліятрэсту, разьмеркаваньне прыбыткаў.

21. Апроч статутнага капіталу (арт. 13) утвараюцца:

а) амартызацыйны капітал;

б) капітал для разгортваньня работ;

в) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых;

г) фонд садзейнічаньня вынаходніцтву;

д) фонд садзейнічаньня сацыялістычнаму спаборніцтву;

е) фонд для прэміраваньня за рацыяналізатарскія прапановы. Гэтыя капіталы ўтвараюцца і прызначаюцца на паказаныя мэты і выдаткоўваюцца ва ўстаноўленым парадку.

22. Вызначэньне разьмэру прыбыткаў і страт, разьмеркаваньне іх і пакрыцьцё страт праводзіцца парадкам, паказаным дзейнічаючым заканадаўствам.

23. Амартызацыя маемасьці Трэсту вытвараецца з захаваньнем устаноўленых првіл.

### Справаздачнасьць Трэсту, рэвізія яго дзейнасьці.

24. Штогод, не пазьней 3-х месяцаў пасьля сканчэньня аперацыйнага году, які лічыцца з 1 студзеня па 31 сьнежня таго-ж году, Дырэктар Трэсту прадстаўляе ў НКЗ БССР на зацьверджаньне складзеную справаздачу, балянс, рахунак прыбыткаў і страт і разьмеркаваньне прыбыткаў, паводле існуючага заканадаўства.

Адтэрміноўка прадстаўленьня справаздач і балянсаў дапушчаецца ў парадку, які прадугледжаны правіламі публічнай справаздачнасьці.

25. Рэвізія дзейнасьці Трэсту ажыцьцяўляецца НКЗ БССР.

26. За выключэньнем выпадкаў, дакладна агавораных у дзейнічаючых законах, іншыя, апроч НКЗ БССР органы ўлады, могуць у межах сваёй кампэтэнцыі даваць Дырэктару Трэсту паказаньні і патрабаваць прадстаўленьня справазадач і зьвестак ня інакш, як праз НКЗ БССР.

### Зьмена статуту Трэсту і ліквідацыя яго дзейнасьці.

27. Павялічэньне або зьмяншэньне разьмеру капіталу, вызначанага па статуту, а таксама іншыя зьмены ў статуце праводзяцца з дазволу НКЗ БССР.

28. Дзейнасьць сваю Трэст спыняе ў парадку, які ўстаноўлен для дзяржаўных трэстаў.

## 72. Пра зацьверджаньне Беларускага Дзяржаўнага Трэсту па водазабясьпечаньні „Белводтрэст“.

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць далучаны да гэтае пастановы статут Беларускага Дзяржаўнага Трэсту па водазабясьпечаньні „Белводтрэст“ рэспубліканскага значэньня.

2. Даручыць Дырэктару Трэсту зарэгістраваць статут у адпаведнасьці з існуючым заканадаўствам.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**
1 верасьня 1931 г.

**Дадатак.**
Зацьверджана Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР т. К. Масюковым 1 верасьня 1931 г.

# Статут Беларускага Дзяржаўнага Трэсту па водазабясьпечаньні „Белводтрест“.

**Агульныя палажэньні.**

1. Для правядзеньня работ па водазабясьпячэньні і каналізацыі ў жывёлагадоўчых саўгасах і калгасах сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, а таксама для задаваленьня патрэб у гэтай справе розных ведамстваў і арганізацый утвараецца Дзяржаўны Трэст рэспубліканскага значэньня пад назвай „Беларускі Дзяржаўны Трэст па водазабясьпечаньні“ „Белводтрэст“, які знаходзіцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і дзейнічае на падставе гэтага статуту.

2. Белводтрэсту перадаецца:

а) увесь аперацыйны пэрсанал, які працуе па водазабясьпечаньні і каналізацыі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, і будаўнічыя кантторы на мясцох;

б) маемасьць якая заключаецца ў майстэрнях, інструмэнтах, абсталяваньні.

3. У задачы Белводтрэсту ўваходзіць:

а) бурэньне буравых, артэзіанскіх, шахтных і інш. студняў;

б) мантаж насосаў, абсталяваньня і інш.;

в) вышуканьні для забясьпечаньня вадой і для каналізацыі;

г) праектыроўка і пракладка вадаправодаў і правядзеньне каналізацыі;

д) арганізацыя майстэрань для вырабу буравых інструмэнтаў і іх рамонту;

е) аказаньне тэхдапамогі саўгасам, МТС і калгасам, у якіх Трэст не праводзіць непасрэдна працы ў справе водазабясьпечаньня і каналізацыі;

ж) падрыхтоўка як масавых кадраў, так і спэцыялістых для паказаных вышэй мэт;

з) распрацоўка мерапрыемстваў па арганізацыі сацыялістычных форм і мэтадаў працы, поўнага пераходу на зьдзельшчыну, зьнішчэньні абязьлічкі і нагляд за іх выкананьнем;

і) пытаньні мэханізацыі вытворчасьці, а таксама распрацоўка мерапрыемстваў па забясьпечаньні работ патрэбнай рабсілай і кантроль за іх выкананьнем;

к) мерапрыемствы па разгортваньні рабочага вынаходніцтва і рацыяналізацыі вытворчасьці.

4. Трэст складае самастойную гаспадарчую адзінку і дзейнічае на падставе гаспадарчага разрахунку ў адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

Ад дню рэгістрацыі Трэст мае правы юрыдычнай асобы.

5. Па сваіх абавязацельствах Трэст адказвае толькі той сваёй маёмасьцю, якая паводле чынных законаў можа спаганяцца; дзяржава за даўгі трэсту не адказвае, а таксама на маемасьць Трэсту ня можа накіроўвацца якое-небудзь спагнаньне за дзяржаўныя даўгі і абавязацельствы.

6. Трэст выконвае свае работы па дагаворах з установамі і арганізацыямі, якія маюць патрэбу ў правядзеньні работ, перлічаных у арт. 3.

Нормы расцэнкі за правадзімыя работы ўстанаўляюцца НК Земляробства БССР.

7. Белводтрэст уладае, карыстаецца і распараджаецца той маемасьцю, якая яму прадастаўлена або ім набыта, і абкладаецца дзяржаўнымі і мясцовымі падаткамі і зборамі на падставе дзейнічаючых законаў.

8. Белводтрэст можа праводзіць на ўсёй тэрыторыі БССР і СССР усе апярацыі, якія патрэбны для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у арт. 3.

9. Бясплатнае адчуджэньне ад Трэсту якой-небудзь маемасьці дапушчаецца толькі з захаваньием устаноўленых правіл.

10. Ва ўсіх выпадках, не прадугледжаных гэтым статутам, Трэст дзейнічае на падставе існуючых законаў.

11. Трэст мае пячатку са сваёю назваю.

**Статутны капітал Трэсту.**

12. Статутны капітал Трэсту вызначаецца арыентовачна ў разьмеры 300.000 руб. і складаецца з кошту маёмасьці, перадана Трэсту ў парадку арт. 2.

**Кіраўніцтва Трэсту.**

13. Для кіраваньня Трэстам НК Земляробства БССР назначае Дырэктара і яго намесьніка.

14. Кіраўніцтва Белводтрэсту знаходзіцца ў г. Менску.

15. Дырэктар Трэсту, паводле гэтага статуту і чынных законаў, пад агульным наглядам НК Земляробства БССР, вядзе самастойна ўсю аперацыйную і адміністрацыйную работу Трэсту, кіруе справамі і маемасьцю, што знаходзіцца ў яго распараджэньні, заключае ўсе дагаворы і робіць апярацыі, якія ўваходзяць ў кола дзейнасьці Трэсту.

16. Дырэктар і яго намесьнік павінны ўжываць усе захады для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у гэтым статуце, і нясуць адказнасьць дысцыплінарную, крымінальную і грамадзянскую за цэласьць даручанай маемасьці і гаспадарчае вядзеньне спраў.

17. У кампэтэнцыю Дырэктара ўваходзіць:

а) арганізацыя работ і кіраўніцтва дзейнасьцю Трэсту ў адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі, зацьверджанымі НКЗ БССР;

б) складаньне і прадстаўленьне ў НКЗ БССР на зацьверджаньне вытворча-фінансавых плянаў;

в) складаньне і прадстаўленьне ў НКЗ БССР на зацьверджаньне пэрыядычных справаздач і балянсаў, праектаў разьмеркаваньня прыбыткаў і пакрыцьця страт;

г) прыём і звальненьне рабочых і служачых, заключэньне каляктыўных умоў і паасобных працоўных згод і прадстаўленьне на зацьверджаньне прыёму і звальненьня Галоўнага бухгальтара Трэсту;

д) падрыхтоўка і перападрыхтоўка кадраў праз адчыненьне курсаў і вярбоўка рабочай сілы;

е) наём, здача ў арэнду і набыцьцё пабудоў, а таксама з дазволу НКЗ БССР набыцьцё права забудоўкі;

Дамы, пабудаваныя за кошт фонду палепшаньня быту рабочых і служачых, здаюцца ў арэнду толькі з дазволу НКЗ БССР;

ж) узяцьце і здача ў арэнду абсталяваньня і дапаможных прадпрыемстваў на тэрмін да 6 год, а звыш гэтага тэрміну—з дазволу НКЗ БССР; узяцьце і здача ў арэнду вытворчых прадпрыемстваў дапушчаецца толькі з дазволу НКЗ БССР;

з) страхаваньне маемасьці Трэсту;

і) арганізацыя касы і вядзеньне справаздачнасьці, паводле ўстаноўленых правіл;

к) арганізацыя з дазволу НКЗ БССР сваіх філіалаў, дапаможных прадпрыемстваў і інш.;

л) выдача і прыняцьце для аплаты ўсялякага роду абавязацельстваў, утварэньне крэдытных апэрацый у адпаведнасьці з зацьверджанымі НКЗ БССР фінансавымі плянамі;

м) заключэньне рознага роду дагавораў, актаў, зьдзелак і інш., неабходных для ажыцьцяўленьня мэт Трэсту;

н) удзел з дазволу НКЗ БССР у рознага роду таварыствах, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, калі іх задачы адпавядаюць мэтам Трэсту;

о) права іску і адказу на судзе, а таксама прадстаўніцтва ва ўсіх адміністрацыйных і гаспадарчых органах у асобе Дырэктара або яго намесьніка, толькі на падставе гэтага статуту, бяз выдачы ім асобнай даверанасьці, альбо праз давераных асоб, упаўнаважаных спэцыяльнымі даверанасьцямі;

п) устанаўленьне прэміяльнага фонду за рацыяналізатарскія прапановы і садзейнічаньне рабочаму вынаходніцтву.

18. Парадак подпісу выходзячых з Трэсту папер устанаўляецца Дырэктарам, усялякага роду дагаворы, зьдзелкі, абавязацельствы, чэкі і даверанасьці падпісваюцца Дырэктаром або яго намесьнікам.

Дакумэнты грашовага парадку сьцьвярджаюцца Галоўным бухгальтарам Трэсту.

Гадавыя справаздачы і балянсы падпісваюцца Дырэктарам альбо яго намесьнікам і Галоўным бухгальтарам.

**Спэцыяльныя капіталы і прыбытак.**

19. Апроч статутнага капіталу (арт. 12) утвараюцца:
а) амартызацыйны капітал;
б) капітал для разгортваньня работ;
в) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых;
г) фонд садзейнічаньня вынаходніцтву;
д) фонд садзейнічаньня сацыялістычнаму спаборніцтву;
е) фонд прэм'яваньня за рацыяналізатарскія прапановы.

Гэтыя капіталы ўтвараюцца і прызначаюцца на паказаныя мэты і выдаткоўваюцца ва ўстаноўленым парадку.

20. Вызначэньне разьмеру прыбыткаў і страт, разьмеркаваньне іх і пакрыцьцё страт праводзяцца з захаваньнем устаноўлсных правіл.

21. Амартызацыя маемасьці Трэсту вытвараецца паводле дзейнічаючага заканадаўства.

**Справаздачнасьць Трэсту і рэвізія яго дзейнасьці.**

22. Штогодна, не пазьней 3-х месяцаў пасьля сканчэньня аперацыйнага году, які лічыцца з 1 студзеня і па 31 сьнежня таго-ж году, Дырэктар трэсту прадстаўляе ў НКЗ БССР, на зацьверджаньне складзеную справаздачу, балянс, рахунак прыбыткаў і страт і разьмеркаваньне прыбыткаў, паводле існуючага заканадаўства.

Адтэрміноўка прадстаўленьня справаздачі балянсаў дапушчаецца ў парадку, які прадугледжан правіламі публічнай справаздачнасьці.

23. Рэвізія дзейнасьці трэсту ажыцьцяўляецца НКЗ БССР.

24. За выключэньнем выпадкаў, дакладна агавораных у дзейнічаючых законах, іншыя, апроч НКЗ БССР органы ўлады могуць у межах сваёй кампэтэнцыі даваць Дырэктару Трэсту паказаньні і патрабаваць прадстаўленьня справаздач і зьвестак ня інакш, як праз НКЗ БССР.

**Зьмена статуту Трэсту і ліквідацыя яго дзейнасьці.**

25. Павялічэньне або зьмяншэньне разьмеру капіталу, вызначанага па статуту, а таксама іншыя зьмены ў статуце праводзяцца з дазволу НКЗ БССР.

26. Дзейнасьць сваю Трэст спыняе ў парадку, які ўстаноўлен для дзяржаўных Трэстаў.

**73. Пра зацьверджаньне Статуту Беларускага Дзяржаўнага Насенаводнага Трэсту „Белнасентрэст“.**

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць далучаны да гэтае пастановы статут Беларускага Дзяржаўнага Насенаводнага Трэсту „Белнасентрэст“ рэспубліканскага значэньня.

2. Даручыць Дырэктару Трэсту зарэгістраваць статут у адпаведнасьці з існуючым заканадаўствам.

Народны Камісар Земляробства БССР **Рачыцкі.**

**4 верасьня 1931 г.**

**Дадатак**
Зацьверджан Народным Камісарам
Земляробства БССР т. **П. Рачыцкім.**
4 верасьня 1931 г.

# Статут Беларускага Дзяржаўнага Насенаводнага Трэсту „Белнасентрэст“.

## I. Агульныя палажэньні.

1. Дзяржаўны Сельска-гаспадарчы Трэст рэспубліканскага значэньня, пад назвай „Беларускі Дзяржаўны Насенаводны Трэст „Насентрэст“, які знаходзіцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і зьяўляецца яго аперацыйным органам, мае сваёй мэтай разьвіцьцё і забясьпечаньне абагуленага сэктару сельскае гаспадаркі БССР чыстагатунковым і палепшаным насенным матарыялам і стварэньне насеннага фонду як для задавальненьня патрэб разьвіваючайся на падставе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, так і для экспарту.

2. Белнасентрэст, паводле пастановы СПА за 1 сьнежня 1930 г., уваходзіць ў склад Усесаюзнага Насенаводнага аб‘яднаньня „Саюзнасенавод“ і праводзіць сваю працу па плянах і заданьнях Народнага Камісарыяту Земляробства БССР, і пад яго непасрэдным кіраўніцтвам праводзіць працу па разьвіцьцю насенаводства ў насенаводных саўгасах БССР.

3. У склад Белнасентрэсту ўваходзяць вытворчыя саўгасы, дапаможныя прадпрыемствы, дасьледчыя станцыі і навучальныя установы, сьпіс якіх далучаецца асобна.

4. Для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных ў арт. 1, на Белнасентрэст ускладаецца:

а) вытвар чыстагатунковага насеньня аднагадовых і шматгадовых кармавых, палявых і лугавых траў, кармавых кораньплодаў, гародных і сідэральных культур, бульбы, зернавых культур у насенсаўгасах, дасьледчых станцыях і учхозах, уваходзячых ў склад Белнасентрэсту

б) садзейнічаньне разьвіцьцю чыстагатунковага і палепшанага насенаводства ў калгасна-каперацыйным сэктары сельскае гаспадаркі БССР;

в) арганізацыя і кіраваньне усёй адміністрацыйна-гаспадарчай дзейнасьцю насенаводных гаспадарак, а таксама кіраваньне дасьледчымі станцыямі і навучальнымі ўстановамі БССР, якія уваходзяць і будуць перададзены Белнасентрэсту;

г) арганізацыя збыту прадукцыі саўгасаў, уваходзячых у склад Белнасентрэсту;

д) правядзеньне мерапрыемстваў па пашырэньні плошчы саўгасаў, падвышэньні ураджайнасьці, палепшаньні тэхнікі вытворчасьці, павялічэньні таварнай прадукцыі і зьніжэньні сабекошту;

е) падрыхтоўка кадраў для саўгасаў, правядзеньне мерапрыемстваў па укамплектаваньні саўгасаў рабочай сілай; арганізацыя сацы-

ялістычных форм і мэтадаў працы, мерапрыемствы па разгортваньні рабочага вынаходніцтва і па рацыяналізацыі вытворчасьці.

5. Трэст складае самастойную гаспадарчую адзінку і дзейнічае на падставе гаспадарчага разрахунку, ў адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі, якія даюцца НК Земляробства БССР. Ад дню рэгістрацыі Трэст мае правы юрыдычнай асобы.

6. За свае абавязацельствы Трэст адказае толькі той сваёй маемасьцю, якая паводле чынных законаў, можа спаганяцца. Дзяржава за даўгі Трэсту не адказвае, а таксама на маемасьць Трэсту ня можа накіроваўцца якое-небудзь спагнаньне за дзяржаўныя даўгі і абавязацельствы.

7. Трэст можа рабіць на ўсёй тэрыторыі Саюзу СССР усе апярацыі, у тым ліку і гандлёвыя, якія патрэбны для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у арт. 1 гэтага статуту.

У замежным гандлі Трэст удзельнічае ў парадку, устаноўленым адпаведнымі законамі.

8. Трэст ўладае, карыстаецца і распараджаецца перададзенай яму маемасьцю і абкладаецца дзяржаўнымі і мясцовымі падаткамі і зборамі паводле агульных законаў, апроч выняткаў, паказаных у палажэньні аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г. і ў спэцыяльных законах.

9. Бясплатнае адбіраньне ад Трэсту якой-небудзь яго маемасьці дапушчаецца толькі паводле правіл, паказаных у арт. 7 палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

10. У дагаворныя адносіны Трэст абавязан уступаць выключна з дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі і калгасна-каперацыйнымі, якія удзельнічаюць, як контрагэнты.

11. Занараджваньне прадукцыі Трэсту для дзяржаўных органаў дазваляецца паводле арт. 39 палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

12. Ва ўсіх выпадках, не прадугледжаных гэтым статутам, Трэст дзейнічае паводле палажэньня аб дзярж. прам. трэстах за 29 чэрвеня 1927 г., а таксама паводле дзейнічаючых законаў.

13. Трэст мае пячатку са сваёю назваю.

## II. Капіталы Белнасентрэсту.

14. Перадазены Белнасентрэсту капітал і маемасьць па усіх пералічаных у п. 2 прадпрыемствах па становішчу на 1 кастрычніка 1931 г. зьяўляецца статутным капіталам Белнасентрэсту, які устанаўляецца арыентовачна ў разьмеры 6 мільёнаў рублёў з давядзеньнем яго ў 1933 г. да 10 мільёнаў рублёў.

Зямельныя вучасткі перададзеных Трэсту гаспадарак у статутны капітал Трэсу не залічваюцца.

15. Белнасентрэст прымае на сябе актыў і пасыў уваходзячых у яго склад прадпрыемстваў паводле ўступнага балянсу на 1/10 1931 г.

16. Апроч статутнага капіталу ўтвараюцца:

а) амартызацыйны капітал;

б) капітал пашырэньня прадпрыемстваў;

в) фонд садзейнічаньня вынаходніцтву;

г) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых;

д) фонд садзейнічаньня сацыялістычнаму спаборніцтву;

е) фонд прэміраваньня за рацыяналізатарскія прапановы.

Гэтыя капіталы ўтвараюцца і прызначаюцца на паказаныя мэты і выдаткоўваюцца ў парадку і на падставе спэцыяльных законаў.

17. Амартызацыя маемасьці Белнасентрэсту вытвараецца з захаваньнем правіл, устаноўленых дзейнічаючым заканадаўствам.

18. Вызначэньне разьмеру прыбыткаў і страт, разьмеркаваньне іх і адлічэньне з прыбыткаў у спэцыяльныя капіталы, а таксама пакрыцьцё страт вытвараецца з захаваньнем устаноўленых правіл.

### III. Кіраўніцтва Трэсту, яго правы і абавязкі.

19. На чале кіраваньня Трэстам стаіць Дырэктар і яго намесьнікі. Дырэктар і яго намесьнік і прызначаюцца і звальняюцца НК Земляробства БССР.

20. Кіраўніцтва Белнасентрэсту знаходзіцца ў г. Менску.

21. Дырэктар Трэсту, паводле гэтага статуту і дзейнічаючых законаў, пад наглядам НК Земляробства БССР, вядзе самастойна ўсю аперацыйную і адміністрацыйную працу Трэсту, кіруе справамі і маемасьцю, што знаходзіцца ў яго распараджэньні, і робіць усе дагаворы і апярацыі, якія ўваходзяць у кола дзейнасьці Трэсту.

22. У кампэтэнцыю Дырэктара, у паасобку, уваходзіць:

а) арганізацыя вытворчасьці і кіраваньне дзейнасьцю ўсіх прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у склад Трэсту;

б) зацьверджаньне палажэньняў аб кіраваньні ўваходзячымі ў склад Трэсту вытворчымі прадпрыемствамі на падстваве тыповага палажэньня, зацьверджанага НК Земляробства БССР;

в) складаньне і прадстаўленьне ў НК Земляробства на зацьверджаньне вытворчых фінансавых плянаў і плянаў капітальнага рамонту, а таксама плянаў будаўніцтва новых вытворчых прадпрыемстваў, даабсталяваньня існуючых, а ў выпадках, прадугледжаных законам, складаньне і паданьне ў НК Земляробства БССР тэхнічных праектаў новага будаўніцтва.

Калі НК Земляробства БССР ня будзе зацьверджаны вытворча-фінансавы плян Трэсту да пачатку аперацыйнага году, то Дырэктар Трэсту да зацьверджаньня пляну ажыцьцяўляе вытворчую дзейнасьць паводле складзенага ім пляну;

г) паданьне ў НК Земляробства БССР для зацьверджаньня праектаў зьмен зацьверджаных плянаў (п. „в“);

д) складаньне і паданьне ў НКЗ БССР пэрыядычных справаздач і балянсаў, праектаў разьмеркаваньня прыбыткаў і папаўненьня страт

е) арганізацыя касы і вядзеньне справаздачнасьці паводле ўстаноўленай сыстэмы і справаводства;

ж) інструктаваньне і рэвізія саўгасных і калгасных устаноў, уваходзячых у склад Трэсту, і пастаноўка ў іх справаздачнасьці;

з) прыём і звальненьне рабочых і служачых, заключэньне калектыўных дагавораў і паасобных працоўных згод, прадстаўленьне ў НК Земляробства БССР аб назначэньні і звальненьні Галоўнага бухгальтара;

і) адчыненьне на усёй тэрыторыі СССР філіялаў Трэсту;

к) найманьне, здача ў арэнду і набываньне будынкаў, а таксама набываньне праў забудоўкі.

Дамы, пабудаваныя за кошт фонду палепшаньня быту рабочых і служачых, здаюцца ў арэнду з дазволу НК Земляробства БССР;

м) узяцьцё і здача ў арэнду абсталяваньня і дапаможных прадпрыемстваў на тэрмін да 6 год, а звыш гэтага тэрміну—з дазволу НКЗ БССР; ўзяцьцё і здача ў арэнду вытворчых прадпрыемстваў дапушчаецца толькі з дазволу НКЗ БССР;

н) страхаваньне маемасьці Трэсту;

о) выдача і прыняцьце для аплаты грашовых абавязацельстваў, вядзеньне крэдытных апяраций;

п) заключэньне ўсякіх патрэбных для ажыцьцяўленьня мэт Трэсту дагавораў, згод, актаў і інш., у тым ліку дагавораў падраду і пастаўкі і выдача даверанасьцяй;

р) удзел з дазволу НКЗ БССР у арганізацыі сындыкатаў, акцыйных (паявых) таварыстваў і інш. гандлёва-прамысловых аб'яднаньняў і набываньне іх акцый і паёў, а таксама ўдзел у сындыкатах, канвэнцыях і таварыствах, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, калі іх задачы адпавядаюць мэтам, паказаным у арт. 1 гэтага статуту;

с) прававаньне на судзе і прадстаўніцтва ў асобе Дырэктара або яго намесьніка, на падставе толькі гэтага статуту, бяз выдачы ім асобнай даверанасьці, або праз даверанных асоб, упаўнаважаных спэцыяльнымі даверанасьцямі, ва усіх адміністрацыйных установах і ў службовых асоб.

23. Парадак падпісваньня выходзячых з Трэсту папер устанаўляецца Дырэктарам; усякія дагаворы, згоды, абавязацельствы, даверанасьці падпісваюцца Дырэктарам або яго намесьнікам.

Гадавыя балянсы і справаздачы падпісваюцца Дырэктарам або яго намесьнікам і Галоўным бухгальтарам Трэсту.

24. Дырэктар і яго намесьнік павінны ўжыць усе захады для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у гэтым статуце, і нясуць адказнасьць дысцыплінарную, крымінальную і грамадзянскую за цэласьць даручанай маемасьці і за гаспадарчае вядзеньне спраў.

**IV. Парадак кіраваньня уваходзячымі ў склад Белнасентрэсту насеннаводнымі саўгасамі, дапаможнымі гаспадарчымі прадпрыемствамі, навучальнымі установамі і дасьледчымі станцыямі.**

25. Непасрэднае кіраваньне паасобнымі, ўваходзячымі ў склад Белнасентрэсту насенаводнымі саўгасамі і дапаможнымі гаспадарчымі прадпрыемствамі, навучальнымі ўстановамі і дасьледчымі станцыямі даручаецца кіраўнікам апошніх, якія дзейнічаюць паводле асобнага палажэньня аб кіраўніцтве даным прадпрыемствам, зацьвярджаемым Дырэктарам Насентрэсту, і даверанасьці выдаваемай ім.

### V. Справаздачнасьць Белнасентрэсту і рэвізія яго дзейнасьці.

26. Штогод, не пазьней 3-х месяцаў пасьля сканчэньня аперацыйнага году, які лічыцца з 1 студзеня па 31 сьнежня таго-ж году, Дырэктар трэсту прадстаўляе ў НК Земляробства БССР, а ў копіі—Саюзнасенаводу, на зацьверджаньне справаздачу, баланс, праект разьмеркаваньня прыбыткаў і страт, паводле палажэньня аб дзяржаўных трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

Адклад тэрміну прадстаўленьня справаздач і балянсаў дапушчаецца у парадку, прадугледжаным правіламі публічнай справаздачнасьці.

27. Рэвізія дзейнасьці Трэсту ажыцьцяўляецца НК Земляробства БССР і з яго згоды—Белканторай Саюзнасенаводу.

28. За выключэньнем выпадкаў, дакладна агавораных дзейнічаючымі законамі, іншыя, апроч НК Земляробства БССР, органы ўлады могуць у межах сваёй кампэтэнцыі даваць Дырэктару Трэсту паказаньні і патрабаваць ад яго прадстаўленьня справаздач і зьвестак ня накш, як праз НКЗ БССР.

### VI. Зьмена статуту і ліквідацыя Белнасентрэсту.

29. Павялічэньне або зьмяншэньне разьмеру статутнага капіталу ўнясеньне іншых зьмен у статут, а таксама ліквідацыя Белнасентрэсту вытвараецца НКЗ СССР у парадку, устанаўленым палажэньнем аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

---







Адказны Рэдактар—**С. Лодысеў.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Галоўлітбел 294. Заказ № 552—5350 экз.